ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.20 (3140) ● ● ЧАЦВЕР, 4 чэрвеня, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY













ПРЫЯРЫТЭТЫ

# Дарога да прызнання

## Маладыя таленты адчуваюць падтрымку дзяржавы

Іван Ждановіч

Тэлефонны званок заспеў яго ў дызелі, між роднай яму Смаргонню і Маладзечна. Мой суразмоўца, як аказалася, "наведваў бацькоў, дзяліўся радасцю". Падчас размовы, нібы акампанемент да глыбокага, чыстага голасу Анатоля Сіўко, чуўся мерны перастук колаў: то прыцішаны, то больш гучны на перагонах. Блізкім да таго шляхам падарожнічаў некалі, у карэце, і ягоны зямляк Міхал Клеафас Агінскі. Бо жыў, як вядома, аўтар знакамітага паланэза "Развітанне з Радзімай" у маёнтку Залессе пад Смаргонню, а ў Маладзечне часта гасцяваў у дзядзькавым замку. А потым былі ў лёсе знакамітага дыпламата і кампазітара Санкт-Пецярбург, Варшава, Кракаў, Вена, Фларэнцыя…

І прыгожыя палацы, і сцэны прэстыжных тэатраў накшталт міланскага "Ла Скала" ці нью-ёркскага "Метраполітэн Опера", і шыкоўныя атэлі свету ў Анатоля, спадзяюся, наперадзе. А пакуль з далёкіх і блізкіх вандровак 21-гадовы спявак вяртаецца ў інтэрнат Маладзечанскага музычнага вучылішча імя таго самага Міхала Агінскага. Там, дарэчы, з Анатолем суседзяць звыш двухсот маладых і таленавітых людзей з усёй Беларусі: спевакі, музыканты. Праўда, не кожнаму з іх пакуль удалося гэтак, як смаргонскаму хлопцу, праявіць сябе. Высокі ж бас Анатоля Сіўко, студэнта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (у Маладзечне працуе філіял ад яе кафедры спеваў), ужо атрымаў прызнанне ў свеце. Добрыя словы ў свой адрас ён пачуў нядаўна і ад Прэзідэнта Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы ў Палацы Рэспублікі з адоранай моладдзю. "Самае значнае для мяне дасягненне – Гран-пры чацвёртага Міжнароднага конкурсу акадэмічнага вакала для дзяцей і юнацтва, — гаворыць Анатоль. — Перамогу атрымаў летась у эстонскім горадзе Кохтла-Ярве".

Можна ўявіць, колькі гонару за земляка было ў асяродку тамтэйшых беларусаў! І сапраўды,Анатользудзячнасцю згадвае іх падтрымку, асабліва з боку старшыні Асацыяцыі беларусаў Эстоніі Ніны Савінавай. Гэта "нашы" паспрыялі, каб яго ў хуткім часе пасля конкурсу запрасілі ўдзельнічаць у канцэрце "Юныя таленты Еўропы", які праходзіў у Таліне. Не забываецца, дарэчы, Анатоль нагадаць, што ў яго поспехах ёсць вялікая заслуга і педагога Георгія Юрэвіча, праца якога таксама адзначана на высокім дзяржаўным узроўні. Пішу "таксама", бо Анатоль Сіўко днямі стаў уладальнікам адной з 22 гранд-прэмій Спецыяльнага фонда Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

→ Стар. 2



АЛЯКСАНДР РУЖАЧКА

Стыпендыяты Прэзідэнцкага фонда Святлана Суднік са Стоўбцаў, Юлія Заверач з Брэста і Вольга Паўлюкевіч са Слуцка

# Інвестары збіраюцца ў Гомелі

## На традыцыйным эканамічным форуме ў абласным цэнтры як ніколі раней былі засведчаны актыўныя намеры рэалізаваць шэраг узаемавыгадных праектаў



БЕЛТА

Гэтыя прывабныя для спажыўцоў тавары зроблены ў Гомелі

Валерый Сідорчык

У прыватнасці, узгодненымі на форуме інвестыцыйнымі пагадненнямі прадугледжваецца арганізацыя ў самім Гомелі вытворчасці пасажырскіх чыгуначных вагонаў, у Жыткавіцкім раёне — вытворчасці электраэнергіі з цвёрдых бытавых адыходаў, а таксама развіццё сеткі гасцінічнага бізнесу ў вобласці. У якасці інвестараў выступаюць бізнес-структуры Расіі і Украіны.

Як лічыць старшыня камітэта эканомікі Гомельскага аблвыканкама Эльвіра Карніцкая, падпісаныя пагадненні з'яўляюцца прызнаннем таго, што, нягледзячы на няпростае становішча ў сусветнай эканоміцы, рэгіён застаецца прывабным для інвестараў. "Характэрна і тое, што на наша запрашэнне прыняць удзел у гомельскім эканамічным форуме адгукнуліся бізнесмены з 22 краін. Цяперашняе мерапрыемства стала самым маштабным за ўсе гады яго правядзення".

Усяго Гомельская вобласць прадставіла на форум больш за 100 інвестыцыйных праектаў — ад турызму да стварэння лагістычных цэнтраў.

ВЕСТКІ

# Не згубіліся ў кніжным моры

Рыгор Няфёдаў

**На 54-й Варшаўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы паспяхова прайшла прэзентацыя беларускай экспазіцыі**

Усяго ў выставе ўдзельнічала больш за 10 беларускіх выдавецтваў. Яны прадставілі каля шасцісот выданняў для дзяцей, даведнікі па краіне, фотаальбомы, адукацыйную і мастацкую літаратуру, энцыклапедыі, а таксама картаграфічныя выданні.

І усё ж, як адзначыў у гутарцы дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" Алесь Карлюкевіч, на выставе ў Варшаве аснову экспазіцыі складалі гістарычныя кнігі, у тым ліку якія тычацца агульнай гісторыі Беларусі і Польшчы. Ён асоба адзначыў зборнік паэзіі Рышарда Капусцінскага на беларускай і рускай мовах. "Гэта кніга твораў вядомага польскага пісьменніка і журналіста, выхадца з беларускай зямлі хутка знайшла пакупнікоў", — падкрэсліў субяседнік. Знамянальным з'яўляецца той факт, што прэзентацыя кнігі адбылася ў Пінску — родным горадзе Рышарда Капусцінскага, аб якім ён таксама пісаў у сваіх творах.

Па меркаванні дырэктара выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзіслава Мачульскага, польскіх чытачоў павінна зацікавіць факсімільная кніга Георгія Карцава, якая ўпершыню была выдадзена ў 1903 годзе. "У Беларусі ёсць усяго тры арыгіналы кнігі, таму прадстаўленае на кірмашы выданне з'яўляецца унікальным", — сказаў ён.



У 54-й Варшаўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы ўдзельнічала каля 600 выдавецтваў з 30 краін. Гэтая выстава, якая штогод праходзіць у маі, з'яўляецца адным з самых буйных выдавецкіх форумаў у Еўропе.

# Шлюб на любы густ

**Міністэрства юстыцыі стала ініцыятарам пашырэння спектра паслуг беларускіх загсаў. Цяпер падчас рэгістрацыі шлюбу можна выкарыстаць элементы нацыянальных традыцый розных краін.**

Ірына Прымакова

У якасці своеасаблівай эксперыментальнай пляцоўкі выступае Мінскі дом шлюбаў, дзе распісваюць усіх замежных грамадзян. Аб самых цікавых абрадах расказала галоўны спецыяліст Дома шлюбаў Ірына Алімава: "Так, італьянская традыцыя — абсыпаць маладых пялёсткамі руж, грэчаская — дарыць нешта салодкае, турэцкая — звязваць заручальныя кольцы ніткай. З Заходняй Еўропы да нас прыйшоў яшчэ адзін звычай — падаваць кольцы на шаўковай падушцы, расшытай рукамі нявесты. Пэўныя патрабаванні ёсць і да касцюмаў. На японскім вяселлі, напрыклад, госці апрануты ў кімано, на англійскім — пяць сябровак нявесты маюць адзенне аднаго колеру (часцей ліловага), а пяць сяброў жаніха — у аднолькавых фраках, а на шыі павязаны хустачкі".


БЕЛТА
Вось так на доўгі і шчаслівы шлюб бласлаўляюць маладых паводле беларускай традыцыі

У Доме шлюбаў не забываюць і пра беларускія традыцыі. Рэгістрацыя шлюбу праводзіцца на беларускай мове з выкарыстаннем ручніка-абярэга будучай сям'і, маладыя апранаюцца ў нацыянальныя касцюмы. "Адрадзілі мы і "заручыны", і мядовае застолле — даўней на вяселлі ў нас пілі медавуху, каб жыццё маладых была салодкім, а іх дзеці — здаровымі", — дадае І. Алімава.

## Карысныя стасункі

Уладзімір Падаляк

**Інстытут журналістыкі БДУ плённа супрацоўнічае са Шведскім інстытутам павышэння кваліфікацыі журналісцкіх кадраў "Fojo"**

Шведскія калегі прыязджаюць у Беларусь абмяняцца ведамі, падзяліцца вопытам. У сваю чаргу выкладчыкі і студэнты Інстытута журналістыкі БДУ ездзяць у Швецыю, каб на практыцы азнаёміцца з дзейнасцю шведскіх сродкаў масавай інфармацыі.

Днямі ў Інстытуце журналістыкі праходзілі семінары па пытаннях прафесійнай этыкі, якія праводзілі вядомыя шведскія журналісты Вілі Сільберштэйн і Агнета Сэдэрберг Якабсан. На сустрэчы прысутнічалі як студэнты і выкладчыкі, так і журналісты-практыкі.

"Для нас вельмі цікава прысутнічаць у Мінску, абменьвацца ведамі і меркаваннямі. Без прафесійнай этыкі мы як журналісты згубім унутраны стрыжань", — патлумачыла Агнета Якабсан.

Сустрэча, сапраўды, атрымалася змястоўнай і пазнавальнай для бакоў. "Мы лічым, што наша супрацоўніцтва дапамагае знайсці адказы на важныя пытанні ў журналістыцы для нас усіх", — упэўнены Вілі Сільберштэйн.

ПРЫЯРЫТЭТЫ

# Дарога да прызнання

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Між іншым, мой калега-журналіст на сёлетнім прыёме ў Прэзідэнта налічыў ажно 90 чалавек і зрабіў высново: прыкладна столькі ж вялікіх перамог здабылі летась нашы маладыя таленты. Што ж тычыцца Анатоля, то голас яго летась пакарыў і вельмі багатую на выдатных спевакоў Украіну (ён стаў уладальнікам Гран-пры трэцяга ўсеукраінскага конкурса салістаў-вакалістаў імя А. Петрусенкі). А яшчэ беларускі бас заваяваў сярэбраны медаль на Другіх сусветных Дэльфійскіх гульнях — яны летась праводзіліся ў Расіі.

— Гэта ўжо традыцыя: у маі з таленавітай моладдзю, лаўрэатамі і стыпендыятамі Спецыяльнага фонда Прэзідэнта сустракаецца спачатку міністр культуры (сёлета гэта было ў Нацыянальнай бібліятэцы), а потым і сам Прэзідэнт, — расказала мне начальнік аддзела па рабоце з таленавітай моладдзю Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры Вікторыя Ігнаценка. — Таму вышэйшае кіраўніцтва краіны пастаянна ў курсе таго, дзе і хто атрымаў перамогу, каму неабходна падтрымка. Дарэчы, менавіта нам даручана весці ўлік лепшых юных спевакоў, музыкантаў, танцораў, што займаюць прызавыя месцы на рознага роду міжнародных конкурсах і фестывалях. Падобны ўлік вядзецца і для пераможцаў прадметных алімпіяд, але ў Міністэрстве адукацыі. Цяпер у нашым электронным банку дадзеных звыш паўтары тысячы прозвішчаў, а таксама больш за 80 творчых калектываў.

Мазыр, Барысаў, Слуцк, Брэсцкі раён, Бабруйск, Лепель, Гомель… Таленты практычна з усёй Беларусі ёсць у пачэсным спісе, прычым іх імёны ўжо вядомыя ў свеце мастацтваў. Скажам, малады музыкант з Магілёва Аляксандр Кухараў летась стаў лаўрэатам і атрымаў дыплом першай ступені на прэстыжным XIV Міжнародным конкурсе маладых выканаўцаў "Яўгеній Кока" ў Малдове. А Вольга Чабатарова, таксама з Магілёва, спявае ў народным стылі, заваявала залаты медаль на V маладзёжных Дэльфійскіх гульнях дзяржаў-удзельніц СНД, якія праходзілі летась у Беларусі.

Міжнародныя перамогі, прызнанне, вядома ж, вельмі нялёгка даюцца. Тым больш павучальны для іншых талентаў для іх далейшага развіцця самыя розныя. Многія творчыя асобы, напрыклад, атрымліваюць стыпендыі, прэміі са Спецыяльнага фонда Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі. Такія рашэнні рыхтуе савет фонда. І, вядома ж, вялікі гонар для кожнага таленавітага чалавека — атрымаць узнагароду, прэмію з рук самога Прэзідэнта.

Менавіта такой радасцю і ездзіў падзяліцца з бацькамі ў Смаргонь Анатоль Сіўко. Ён рады, што збываецца мара яго маці пра музыку: яна калісьці іграла на скрыпцы. Добрымі спевакамі былі, кажуць, дзяды і прадзеды Анатоля. Што ж, настала і яго чарга падымацца на вяршыні прызнання. Пажадаем яму ўдзячных слухачоў і поспеху на сцэнічных пляцоўках Радзімы і свету. Дарэчы, у бліжэйшы час Анатоль едзе на конкурс вакалістаў у эстонскі горад Пярну. А ў жніўні яго чакае Хельсінкі — у сталіцы Фінляндыі збяруцца таленавітыя спевакі з больш чым сарака краін.


БЕЛТА
Удзельнікам сустрэчы з Прэзідэнтам ужо вядомыя хвалюючыя імгненні перамог

прыклад такіх мэтанакіраваных людзей, як спявак з Мінска Аляксей Крэчат. Летась яго імя двойчы засвяцілася ў ліку пераможцаў: на міжнародных фестывалях "Залаты крыж" на Мальце і "Твары сяброў" у Малдове.

— Усе таленавітыя дзеці нашай краіны, юнакі і дзяўчаты не застаюцца без дзяржаўнай увагі і падтрымкі, — прадаўжае В.Ігнаценка. — Трэба толькі, і найпершая ўмова для гэтага — каб на салідным узроўні праявіўся "дар Божы". А формы заахвочвання

З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

## Родныя матывы ў песнях і ўзорах

**Ян Целушэцкі з Беласточчыны расказвае, чым сёння жывуць нашы землякі ў Польшчы**

З першага допісу Яна Целушэцкага даведаемся, што цяпер у роднай яму Нараўчанскай гміне пражывае крыху больш за 4200 асоб. Аўтар расказвае пра святкаванне Дня інваліда ў гмінным асяродку культуры ў вёсцы Нараўка Гайнаўскага павета. Яго арганізавала раённае праўленне Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў. З дописа відаць, што пенсіянеры Беласточчыны праводзяць сустрэчы, танцавальныя вечарыны, ездзяць на экскурсіі. На адной з сустрэч салісткі гурта «Нараўчанка» спявалі прыгожыя беларускія песні. А хутка забаўляльнае мерапрыемства для пажылых людзей «Прывітанне, лета!» плануецца правесці прама ў Белавежскай пушчы.

Яшчэ адно паведамленне — пра конкурс «Беларуская песня — 2009», у якім бяруць удзел дзеці і моладзь. Ён прайшоў у сярэдзіне мая ў Бельскім доме культуры. Гэта быў ужо 36-ы па ліку конкурс, які традыцыйна ладзіць Беларускае грамадска-культурнае таварыства з Беластока.

Паведаміў Ян Целушэцкі пра выставу-конкурс ручной вышыўкі (гафту), карункаў і вязання, які прайшоў у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. На многіх тканінах можна было заўважыць старадаўнія беларускія матывы, прысутныя ў гафтах нашых бабуляў і матуляў. "А якія прыгожыя, вытанчыныя карункі — тоненькія, лёгкія, быццам не з нітак, а з імглы" — захаплялася аўтар.

І нарэшце паведамленне Я.Целушэцкага пра "юбілейны, 30-ы дэкламатарскі конкурс ды адначасова конкурс на тэатральную пастаноўку "Сцэнічнае слова" для моладзі сярэдніх школ, арганізаваны Беларускім грамадска-культурным таварыствам". У катэгорыі дэкламантаў гран-пры заваявала Юльяна Дораш з агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым вывучэннем беларускай мовы (Бельск-Падляшскі), першае месца — у Дар'і Маркевіч з Комплекса школ з дадатковым вывучэннем беларускай мовы (Гайнаўка). У катэгорыі "тэатр малых формаў" найлепшым прызнаны гуртох "Драма" зноў жа гайнаўскага ліцэя: юныя артысты ігралі пастаноўку "Вяселле".

# Краявіды з крыштальнай вадой

## Прафесар Міхаіл Калінін умее бачыць прыгажосць у звыклым і будзённым

Лявон Целеш



На гэтай выставе я яшчэ раз пераканаўся: каб з захапленнем ствараць тое прыгожае, што ўражвае, радуе сэрца, зусім не абавязкова быць прафесійным фатографам, мастаком, скульптарам... Для гэтага дастаткова мець багатую фантазію, неабыякавую да харастава душу і, вядома ж, талент назіральніка. Міхаіл Калінін — чалавекам менавіта з такімі якасцямі.

Спачатку фотавыстава яго работ пад назвай "Прырода Міншчыны" праходзіла ў Музеі землязнаўства, што на геаграфічным факультэце Беларускага дзяржуніверсітэта — там Міхаіл Юр`евіч быў у свой час студэнтам. Затым творы перамясціліся ў Актавую залу універсітэта. Фотавыстава прысвячаецца Году роднай зямлі. Сімвалічна і тое, што праходзіць яна ў Міжнародны год фатаграфіі: як вядома, 170 гадоў таму французскі вынаходнік Луі Дагер упершыню знайшоў спосаб атрымання фотаздымка.

...Буслянка з даўганогімі гаспадарамі, прычым буслы на фоне нябеснага блакіту — нібы рыцары ў белых плашчах–накідках. А зняты па-майстэрску цар–грыб баравік так і просіцца ў кошык. Нават сівыя, замшэлыя валуны каля крынічкі глядзяцца як жывыя. А захад сонца! А шчаслівы рыбак з багатым уловам! Міхаіл Юр'евіч вельмі любіць здымаць краявіды з вадаёмамі Міншчыны. Значна прадстаўлена "блакітная артэрыя" Мінска: вадасховішчы "Заслаўскае", "Чыжоўскае", "Драздь", "Крыніца", рака Свіслач, Сляпянская водная сістэма. Уражваюць дзівосныя азёры Мядзельшчыны: лебедзі на Нарачы, краявіды азёраў Мястра, Баторына, куточак самай чыстай у Беларусі ракі Страча... Зрэшты, аўтар не выпадкова найбольш увагі аддае вадаёмам. Міхаіл Юр`евіч — дырэктар Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў, мае вучоную ступень доктара тэхнічных навук. А яшчэ ён выкладчык Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага універсітэта імя А. Сахарава. Між іншым, гэта па яго ініцыятыве ў Мінску ўжо тры разы праводзіліся Міжнародныя водныя форумы. Міхаіл Юр`евіч таксама прадстаўляў Беларусь на Сусветных водных форумах у Мехіка і Стамбуле. Дарэчы, у пасольстве Рэспублікі Беларусь у Турцыі і цяпер дэманструецца выстава яго фотаработ. Нядаўна ён вярнуўся з Жэневы, дзе прадстаўляў Беларусь на двух міжнародных семінарах.

Варта яшчэ дадаць, што пры непасрэдным удзеле прафесара Міхаіла Калініна выдадзены шэраг кніг, прысвечаных водным рэсурсам гарадоў і раёнаў Беларусі.





На многіх фотаздымках Міхаіла Калініна галоўны "герой" — вада

Цяпер яго фотавыставы, на якіх адлюстраваны краявіды Міншчыны, Віцебшчыны і Гомельшчыны, экспануюцца ў рэгіёнах краіны. З імі знаёмяцца жыхары Віцебска, Гомеля, Барысава. Фотавыстава "Прырода Міншчыны" дзейнічае ў Барысаве, а ў хуткім часе з ёй азнаёмяцца жыхары Маладзечна, Слуцка, Нясвіжа і іншых гарадоў.

Фотатворы неардынарнага чалавека Міхаіла Юр`евіча Калініна адкрываюць дзівосны свет прыроды нашай Бацькаўшчыны, дазваляюць у будзённым выяўляць незвычайнае, а ў незвычайным — заканамернае. І вельмі тактоўна вучаць любіць прыроду і ахоўваць яе.

СУСТРЭЧЫ

# Цёплы вечар у Астраўцы

Яніна Васілеўская

**Хлебам-соллю сустракалі гасцей з Латвіі ў Доме культуры райцэнтра, што на Гродзеншчыне: там прайшоў творчы вечар паэта Станіслава Валодзькі**



Госці з Даўгаўпілса і гаспадары свята сфатаграфаваліся на памяць

Астравеччына — яго малая радзіма: у вёсцы Падольцы прайшлі дзяцінства і юнацтва. Разам з паэтам, які жыве ў Даўгаўпілсе, прыехалі беларускія вакальныя калектывы «Купалінка» і «Ластаўкі». На вечары гучалі многія песні на вершы Станіслава Валодзькі. Дарэчы, супрацоўнічае паэт як з кампазітарамі з Латвіі, так і з Беларусі: Аляксандрам Рудзем, Таццянай Піменавай, Міколам Яцковым, Альбертам Белусем і Аляксандрам Якіменкам. Пра што песні? Вядома ж, пра радзіму, і назвы іх гавораць самі за сябе — «Сустракай, Беларусь!», «Зязюля», «Под небом родины», «Астравеччына», «Ветэранам», «Беларускі дом».... Вядучым на вечары быў старшыня беларускага таварыства «Уздым» з Даўгаўпілса Барыс Іваноў. Адметна, што і ў складзе «Купалінкі» ёсць спявачкі, якія таксама родам з Астравеччыны — Галіна Сантоцкая і Марыя Памецька. А Маргарыта Мілушава шмат гадоў працавала тут настаўніцай.

Потым слова мелі гаспадары. Работнікі бібліятэк Астравеччыны і дзеці пачатковых класаў Астравецкай школы прачыталі вершы Станіслава Валодзькі. А мясцовы ансамбль «Кемеліна» выканаў песню «Мой косю» кампазітара Анатоля Мядзведзева на словы земляка.

З цёплымі прывітальнымі словамі да паэта звярнуліся старшыня Астравецкага раённага савета Ірына Шляхтун, загадчыца раённай бібліятэкі Яніна Мяшкова, супрацоўніца газеты «Астравецкая праўда» пісьменніца Таіса Сямёнава. Расчуліўся паэт, калі яго аднасяльчанка паэтэса Людміла Валодзька прачытала прысвечаныя яму вершы. Станіслаў Валодзька атрымаў у падарунак кнігу «Памяць. Астравецкі раён», дзе надрукаваны біяграфічныя звесткі пра яго, а таксама зборнік твораў літаратараў Астравеччыны «Астравецкай зямлі галасы» з падборкай яго вершаў.

У фае Дома культуры была разгорнута выстава кніг і публікацый Станіслава Валодзькі. У заключэнне візіту гасцям паказалі адметныя мясціны Астраўца. Як вядома, у хуткім часе райцэнтр стане горадам энергетыкаў. Асаблівую цікавасць выклікаў парк каменных скульптур, адкрыты летась, калі гарадскі пасёлак святкаваў сваё 540-годдзе.

# Асаблівасці народнай творчасці

Ала Казакова

**Серыю праектаў, прысвечаных Году роднай зямлі, задумалі студэнты Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта. Адзін з праектаў, пад назвай "Утварэнні зямлі", ужо рэалізаваны ў Дзяржаўным музеі прыроды і экалогіі Беларусі**

Што такое — утварэнні зямлі? Студэнты і выкладчыкі факультэта народнай культуры адказ на гэтае пытанне ўвасобілі ў працах: прадставілі кераміку, вырабы з саломкі. Самі ж правялі шэраг экскурсій, прычым гіды апранулі строі, зробленыя ўласнымі рукамі. Студэнты расказалі пра асаблівасці беларускіх рэгіёнаў: многія з іх прыехалі вучыцца ў Мінск з вёсак, раённых і абласных цэнтраў і добра іх ведаюць.

— Супрацоўніцтва з універсітэтам працягнецца, — гаворыць загадчыца аддзела экспазіцыйна-выставачнай работы музея Таццяна Лаўрыновіч. — Чарговы праект у нашым Доме прыроды, што ў Траецкім прадмесці, будзе прысвечаны Белавежскай пушчы. Ва універсітэце — нярэдкія выставы, звязаныя з духоўнай спадчынай беларускага народа. Па прызнанні нашых студэнтак, некаторыя з іх стараюцца выкарыстаць старадаўнія рэцэпты, сакрэты і ў паўсядзённым жыцці. Зрабіць, напрыклад, сваімі рукамі ручнікі, сабраць аўтэнтычны пасаг да вяселля лічыцца асаблівым шыкам.

Студэнты рыхтуюць таксама дыярамы, з дапамогай якіх плануюць аб'ёмна адлюстраваць некаторыя гістарычныя падзеі.

# “Славянскі вянок” упрыгожыў Талін

## Беларускае мастацтва з поспехам было прадстаўлена на музычным свяце ў Эстоніі

**Марта Астрэйка**

У свяце песні і танца “Славянскі вянок” прымалі ўдзел больш за 200 творчых калектываў: з Латвіі, Расіі, Украіны, Фінляндыі, Эстоніі. Беларускае мастацтва на свяце прадставіў фальклорны песенны ансамбль “Лянок” талінскага беларускага таварыства “Лёс”. Артысты прынялі ўдзел у шэсці па вуліцах Старога горада і ў гала-канцэрце свята ў самай вялікай зале эстонскай сталіцы, Гархоле.

Перад пачаткам урачыстасцяў да арганізатараў, удзельнікаў і гледачоў “Славянскага вянка-2009” звярнуліся мэр Таліна Эдгар Савісаар, віцэ-канцлер Міністэрства культуры Эстоніі Анне Рэйма, саветнік-пасланнік пасольства Расіі Вячаслаў Тучнін і генеральны консул Беларусі Аляксандр Астроўскі.


Юная віцебская мастачка Валерыя Усовік стала пераможцай міжнароднай выставы ў японскай сталіцы

# Тры медалі з Токіо

Валерыя Усовік з Віцебска ўдзельнічала ў Міжнароднай выставе дзіцячай мастацкай творчасці ў Токіо ўпершыню. Займаецца дзяўчынка ў дзіцячай студыі “Мурашнік”, якая створана ў Цэнтры пазашкольнай работы Кастрычніцкага раёна горада на Дзвіне.

60 637 — менавіта столькі дзіцячых работ з 42 краін было прадстаўлена на выставе. І вось нядаўна стала вядома, што малюнак Валерыі, якая вучыцца ў трэцім класе гімназіі, удастоены найвышэйшай узнагароды.

Цікава, што сяброўкі Валерыі па студыі таксама заваявалі ўзнагароды выставы ў Токіо: у Юліі Ханяк — сярэбраны медаль, у Насці Алаевай — бронзавы.

# Сустрэнемся на Траецкай гары

## Скверу каля опернага тэатра ў Мінску надалі гістарычную назву

**Віктар Корбут**

У 30-я гады мінулага стагоддзя тут яшчэ было даволі прыкметнае ўзвышша, на якім з даўніх часоў знахо-дзіўся рынак. Траецкім яго называлі ў памяць пра касцёл Святой Тройцы, што калісьці стаяў у гэтым раёне горада. Ад храма, дарэчы, атрымаў найменне і ўвесь раён — Траецкае прадмесце, а сучасная вуліца Янкі Купалы да сярэдзіны XIX стагоддзя таксама была вядома як Траецкая. Цяпер камісія Мінгарвыканкама па найменаванні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых складовых частак горада Мінска пастанавіла вярнуць старажытнаму раёну колішняе найменне. Спрадвечныя назвы адроджаны і ў іншых кутках сталіцы. Ведаючы, што значаць гэтыя найменні, і жыхарам сталіцы, і падарожнікам з-за мяжы будзе цікавей вандраваць па горадзе і прасцей у ім арыентавацца.


Камароўскі сквер у раёне гандлёвага цэнтра “Люстэрка”

Паркавая зона уздоўж Свіслачы ў раёне вуліц Камуністычнай, Старажоўскай — гэта цяпер Старосцінская слабада, бо тут калісьці было аднайменнае прадмесце, дзе ў перыяд Вялікага княства Літоўскага сяліліся арандатары мінскага старосты (намесніка манарха або кіраўніка спраў ягоных зямель).

Зялёны астравок каля каледжа фінансаў і банкаўскай справы на вуліцы Краснай, 17 цяпер лічыцца Красным скверам. Як і назва вуліцы, сквер тлумачыцца старажытным беларускім словам “красны” — гэта значыць “прыгожы”. Раён вуліцы Карла Лібкнехта да сярэдзіны XX стагоддзя быў заселены немцамі. Яны мелі тут і свой храм — кірху. Побач знаходзіліся лютэранскія могілкі (бо выхадцы з Германіі належалі да паслядоўнікаў хрысціянскага вучэння Лютэра). На месцы могілак цяпер сквер. Новая назва парка — Лютэранскі.

У памяць пра зніклую ў 1970-я гады вёску Малое Мядзвежына сквер паміж вуліцамі Волаха і Купрыянава стаў Маламядзвежынскім. А новы парк, які праектуецца ў мікрараёне Сухарава-5 на беразе Качынкі будзе называцца Дзівелка — гэта яшчэ больш даўняе найменне рэчкі.

Таксама мінскія тапаністы і гарадскія ўлады пастанавілі надаць назву безыменнаму скверу ў раёне гандлёвага цэнтра “Люстэрка”. Паколькі побач знаходзіцца Камароўскі рынак, то і зялёная зона “паводле пашпарта” цяпер — Камароўскі сквер. Сквер каля Кальварыйскіх могілак лагічна атрымаў назву Кальварыйскі. Размешчаны недалёка адсюль парк ля райвыканкама Мінскага раёна ў памяць пра вёску Альшэва, знесеную ў 1960-я гады, будзе пазначаны ўжо не як ананімная “пустка”, а пад імем Альшэўскі.

# Рамантыка душы

## Выстава работ Пятра Асоўскага — гэта аб’яднаныя агульным настроем і светаўспрыманнем 84 палатны: па колькасці гадоў аўтара

**Ніна Шпакоўская**

Славянскай тэматыкай мастак зацікавіўся яшчэ ў 70-я гады. Менавіта тады акунуўся ў прыцягальны свет старадаўняй Польшчы, таямнічай Чэхіі, жывапіснай Славакіі, сонечнай Балгарыі. Наведвальнікам экспазіцыі «Рамантыка славянскіх зямель», разгорнутай у Мінску, прадстаўлена аўтарскае бачанне гэтых краін, якое адлюстравалася, напрыклад, у вобразах мадоннаў і простых людзей. «Чэшская дзяўчына», «Польскі шахцёр», «Балгарскі юнак» утрымліваюць у сабе часцінку ўнікальнага свету сваёй культуры і свайго народа. Немагчыма не спыніць позірк на палатне «Славацкая дзяўчына з шыццём»: здалёк прываблівае настрой спакою і насычаны пурпур фарбаў.

Адлюстраваць сваё бачанне славянскай душы аўтар імкнуўся не толькі праз партрэты, але і пейзажы. Асаблівае месца ў экспазіцыі займаюць вобразы возера. Здаецца, што аўтар, як калісьці імпрэ-сіяніст Клод Манэ, хацеў славіць і адлюстраваць імгненне, спрабаваў убачыць праз змяненні вечнае. «Залаты захад», «Ружовыя воблакі», «Азёрныя навальніцы» ў кантэксце агульнай тэматыкі расказваюць пра нешта большае, чым непаўторнасць навакольнага асяроддзя.


Тры карціны з выставы

ПРА ШТО СЛОВА ГАВОРЫЦЬ

# Непаўторны каларыт

**Адметныя рысы, нацыянальная спецыфіка народа найбольш ярка праяўляецца на ўзроўні лексікі. Можна сказаць, што эпоха станаўлення сістэмы значэнняў нацыянальнай мовы — гэта эпоха адлюстравання ў словах асаблівасцяў псіхалогіі народа, яго светаўспрымання, культурна-этнаграфічных традыцый**

Узгадаю некаторыя каларытныя беларускія словы. Так, напрыклад, у С. Грахоўскага чытаем: “За лета агораў хатку, з гліны зрабіў печ, і паплыў у неба смольны дымок”. Звяртае на сябе ўвагу слова **агораў**. Яно надзвычай ёмістае і тлумачыцца як “купіць ці набыць з вялікімі цяжкасцямі”. Дарэчы, для яго няма аднаслоўнага адпаведніка, напрыклад, у рускай мове, і таму перакладаецца слова “**агораў**” цэлым сказам.

Цікавы дзеяслоў **адкавяліць**. Ён мае значэнне “адрэзаць, адхапіць вялікі кавалак”. Па той жа мадэлі — з дапамогай прыстаўкі — утварыліся і самабытныя беларускія словы **абрасіць** — “намачыць расой”, **абмарачыцца** — “у выніку працяглага кручэння згубіць арыентацыю ці раўнавагу”, **адліжыць** (так кажуць пра цёплае веснавое надвор’е, калі растае снег). А вось назоўнік **адхланне** абазначае кароткую палёгку ад цяжкай, працяглай працы.

Часта можна пачуць у размове або сустрэць у літаратуры прыслоўе **анігадкі**. Часам яго ўжываюць недарэчна, дакладна не ведаючы значэння. Патлумачу яго, перакладаўшы на рускую мову. У ёй адпаведнікам слову **анігадкі** служыць спалучэнне “хоть бы что”. Прывяду прыклады выкарыстання гэтага прыслоўя ў мастацкай літаратуры: “Вунь Антонаў Казік пабыў год на нейкіх там курсах-шмурсах і цяпер анігадкі жыццё займеў” (А. Марціновіч) або “Колькі ні ўпрошвала, яму анігадкі: толькі тое і робіць, што ходзіць на сходы” (В. Каваленка).

А вось прыгожае слова **весянчук**, якое я знайшла ў кнізе Ірыны Шкрабы “Самабытнае слова”. Няцяжка здагадацца, што паходзіць яно ад слова *вясна*. І абазначае хатнюю жывёліну, птушку, якая нарадзілася вясной. Вось як ужыта гэта слова ў адным з твораў Барыса Сачанкі: “Ля плота паважна, з гонарам расхаджваў рыжы певень-весянчук і згукваў да сябе курэй”. Адпаведна **асянчук** — гэта свойская жывёліна або птушка, якая нарадзілася восенню.

Наша мова багатая і мілагучная, карыстайцеся яе скарбамі спаўна.

**Падрыхтавала Вераніка Бандаровіч**

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб’ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 677